# Тыднёвік Магілёўскі




№ 4 (145) 25 – 31 студзеня 2002 г. Кошт 100 руб.


## Куды вядзе Ленінская вуліца





*З новага году мы друкуемся ў той самай друкарні, што і ўсе папярэднія гады. Тыя ж самыя людзі даводзяць газэту да друкарскай лініі (дарэчы, дзякуй ім за лаяльныя і нават цёплыя адносіны да нашага, у прыватнасьці, выданьня). На тым самым абсталяваньні й тыя самыя тэхналягічныя цыклы, што і раней, праходзіць газэта перад тым, як трапіць у друк...*

*Але настрой у нас цяпер іншы, новы і прыемны. Бо і сама друкарня сталася нібы іншай і новай. А толькі і ўсяго, што займела новую прыстаўку да свайго вытворчага найменьня: была імя Сьвярдлова, цяпер – імя Собаля (даведку пра гэтую гістарычную асобу чытайце ніжэй). Мы ведаем, што ня ўсе ў друкарні задаволеныя такім "падарункам" з боку аблвыканкаму, бо да новага імя не прыклалі сродкаў на замену пячаткі, штампу, афіцыйных блянкаў і г.д. Гаворыць гэта, аднак, ня толькі пра тое, што адміністрацыі прадпрыемства ў гэты цяжкі эканамічны час шкада адрываць сродкі "ад сябе", але найперш пра тое, што ніхто не зьвяртаў увагі на папярэдняе імя прадпрыемства: Сьвярдлова дык Сьвярдлова, каму, маўляў, гэта перашкаджала... Можа, рабочыя новага пакаленьня й зусім ня ведалі, хто гэта такі быў.*

*Лёгіка тут, на першы погляд, зразумела, ёсьць. Таксама не зьвяртаюць увагі, прыкладам, нашыя калгасьнікі на тое, што працуюць у гаспадарках імя Чапаева ці Фрунзэ, а тое й Суворава. Як не зьвяртаюць увагі рабочыя, што ўсьлед за вытворчымназовам іхнага заводу стаіць недарэчнае імя "Великого Октября" ці, скажам, Мясьнікова. Як не зьвяртаюць увагі наведвальнікі абласной бібліятэкі на тое, што над ёю "зьзяе" прозьвішча "самага жывога спасярод жывых"...*

*Сапраўды, усё гэтае камуністычна-савецкае "наследие" – глупства. Але гэта такое глупства, за якое цяперашняя ўлада чапляецца, як за выратавальную саломінку, праводзячы сваю ва ўсім савецкую палітыку. У эканоміцы і сацыяльным жыцьці, у культуры і адукацыі, у спорце і адпачынку, унутры краіны і за мяжой – усюды ў нас сэрп і молат, чырвоны сьцяг, адзінства партыі і народу (чытай: Лукашэнкі і народу), камуністычная рыторыка, бальшавіцкія рашэньні і такія ж абяцаньні...*

*Вяртаньне да людзкасьці, нармальнасьці, нацыянальных каранёў, цывілізаванасьці, якое прайшлі альбо ўпарта праходзяць шмат якія суседзі па былому сацлягеру, у нас прымусова й сьвядома замаруджанае, а нават у шмат чым і спыненае. Вось чаму такой нечаканай прыемнасьцю ўспрымаецца перайменаваньне друкарні. Хаця, шчыра сказаць, аб вытворчасьці і прадпрыемстве павінны сьведчыць ягоная прадукцыя альбо імя вытворцы, а не "прышпіленае" прозьвішча якой гістарычнай асобы. Іншая справа – нашае асяродзьдзе: вуліцы, пляцы ды сквэры. Мы стаім за вяртаньне гістарычных назоваў нашай жыцьцёвай прасторы. Падкрэсьлім гэта – за вяртаньне, а не перайменаваньне. Гэта зусім ня тое самае, што выкрэсьліваньне імёнаў ці назоваў з падручнікаў і памяці з нагоды "новага часу". Вяртаць трэба тое, што было пры нараджэньні, што зьвязвае час мінулы з часам сёньняшнім, што не перарывае ланцуг жыцьця. Бо гэта Гісторыя, а яна – вечная. Карані нашыя – вечныя. Запаветы бацькоўскія – вечныя... Зь іх і ад іх пачынаецца тое, што робіць жыцьцё асобнага чалавека і грамадзтва зьмястоўным і маральным, прыстойным і правільным. А жыць такім жыцьцём – значыць абавязкова дасягнуць і эфэктыўнага матэрыяльнага стану. Сувязь тут настолькі ж трывалая, наколькі ня бачная на першы погляд.*

*Аўтар гэтых радкоў у 95-м, здаецца, годзе браў інтэрвію ў тагачаснага старшыні Магілёўскага гарвыканкаму Дзімітрыя Сівіцкага. Падчас гаворкі запытаўся: калі, нарэшце, наша Ленінская вуліца верне сваю сапраўдную назву – Ветраная? І ў адказ пачуў: не да таго пакуль, давайце пажывем яшчэ на Ленінскай.*

*Вось і жывем...*

***Рэдактар "ТМ"***

### Гістарычная даведка

Сьпірыдон Собаль (дата нараджэньня і сьмерці якога, на жаль, невядомыя) паходзіць з Магілёўшчыны. Гісторыкі вызналі, што менавіта гэты друкар і асьветнік другой чвэрці 17-га стагодзьдзя выдаў у свaім часе некалькі слынных кнігаў маральна-асьветніцкага і царкоўнага зьместу. Сьпірыдон Собаль у 1630г. заснаваў друкарню ў мястэчку Куцейна, што пад Воршай, крыху пазьней – друкарню непадалёк ад Магілёву, у Буйнічах. Кнігі, што выдаваліся ў іх, склалі сапраўдную скарбніцу культуры тагачаснага грамадзтва. Праз 5 гадоў Сьпірыдон Собаль стаўся заснавальнікам і, як мы б сказалі цяпер, дырэктарам Магілёўскай Брацкай друкарні. Найбольш знакамітымі кнігамі, выдадзенымі гэтым своеасаблівым таварыствам тагачаснай інтэлігенцыі, сталіся "Псалтыр" і "Тэстамэнт", надрукаваныя, зразумела, на беларускай мове. Таксама Собаль друкаваў кнігі на замову Польскага каралеўскага двара (у склад якога ўваходзіла Беларусь) на польскай, грэцкай і лацінскай мовах. Сьпірыдона Собаля можна назваць адным зь першых самастойных людзей у нашым краі (прадпрымальнікам), бо менавіта зь ягонай ініцыятывы Брацкая друкарня мела дзелавыя стасункі з калегамі ў Польшчы, Украіне, Расеі... Цікава, што ўжо "Беларуская савецкая энцыклапэдыя" (1972г.) прызнавала несумненныя заслугі Сьпірыдона Собаля перад нацыянальнай культурай і нацыянальным друкарствам. Аднак спатрэбілася нават ад часу яе выданьня 17 год, каб пазначыць імя Собаля на мэмарыяльнай дошцы ў Магілёве, і 20 год, каб вярнуць яго імя ў прафэсійны ўжытак.

## Аналітыкі ўгадалі

***Паводле ўказу Лукашэнкі №40 значна ўзмацніліся рэпрэсіўныя функцыі Камітэту дзяржкантролю, які атрымаў права без суду канфіскоўваць маёмасьць юрыдычных і фізычных асобаў, а таксама выстаўляць штрафныя санкцыі.***

Як лічыць, у прыватнасьці, прэзыдэнт Беларускага саюзу прадпрымальнікаў Аляксандар Патупа, Камітэт дзяржкантролю ператварыўся цяпер у "эканамічны НКВД". Ён ня толькі кантралюе ўсе эканамічныя апэрацыі ў краіне, але й набывае функцыі асобнай галіны ўлады. Старшыня Дзяржкантролю А.Тозік дамогся стварэньня своеасаблівай унутранай эканамічнай мытні, кожнае перасячэньне межаў якой можа выклікаць пазасудовыя санкцыі.

А.Патупа лічыць, што ва ўказе №40 закладзены велізэзны крымінагенны патэнцыял, і што карупцыю ў краіне цяпер мала што будзе стрымліваць. "Гэтым указам, – падкрэсьліў грамадзкі дзеяч, – на ўсіх спадзевах унутры краіны і па-за яе межамі на лібэралізацыю эканомікі ставіцца канчатковы крыж. Цікава, што ўказ зьявіўся якраз у той момант, калі расейскі капітал пачынае ажыцьцяўляць буйнамаштабную экспансію на Беларусь. Фактычна дакумэнт прысьпешвае зруйнаваньне айчыннага прадпрымальніцтва, адкрываючы дарогу расейцам. Застаецца чакаць, калі якая-небудзь расейская фінансова-прамысловая група цалкам забярэ Беларусь сабе ў кішэню".

***Юрась КАРМАНАЎ***

## ШТО НА ТЫДНІ... У ГОРКАХ



***Вельмі марудна асвойвае раённая мэдыцына пераход на аказаньне платных паслугаў.***

Жыхары таксама не імкнуцца плаціць за здароўе. Каб не стаматалёгія, якая летась назьбірала ці ня больш за 90% усёй сумы, астатнія мэдпаслугі практычна нічога не далі ў бюджэт. А так усё ж ёсьць "свае" сродкі, што нібыта папоўнілі самафінансаваньне галіны ажно... на 0,2%.

***Вось ужо 10-гадовы юбілей адсьвяткаваў мясцовы Дом рамёстваў пры раённым аддзеле культуры.***

Гэты Дом нарадзіўся з ініцыятывы таленавітых людзей – супругаў Сяргея і Натальлі Квачаў. Доўгі час ён заставаўся адзіным у краіне. Гэта і своеасаблівы музэй, і цікавая майстэрня. Усе наведвальнікі адзначаюць высокі ўзровень самабытнасьці мясцовага рэзьбака па дрэву, 87-гадовага Івана Кірэенкі. А вось гурток падлеткаў, які займаецца керамікай, пахваліцца новымі творамі ня можа, бо даўно не вырашаецца праблема печы для абпалу вырабаў.

***На адзін з апошніх дзён месяца ў райвыканкам ад Партыі камуністаў Беларускай пададзена заяўка на пікет "супраць абнішчэньня народу".***

Мяркуецца яго правесьці, зразумела, на плошчы Леніна, дзе ніколі не дазваляецца зьбірацца ніякім апазыцыянэрам. Магчыма, што сымпатыя да камуністаў выкліканая ня толькі іхнай блізкасьцю да ўлады, але й тым, што яны замовілі ўсяго 15 удзельнікаў пікету.

***За апошні тыдзень міліцыя затрымала блізу 10-ці падлеткаў школьнага ўзросту, якія знаходзіліся на вуліцы ў нецьвярозым стане.***

Такія выпадкі для райцэнтру, на жаль, ня рэдкасьць. Міліцыя ўвогуле сьведчыць пра "памаладзеньне" многіх злачынстваў і прыкрых праяваў, у тым ліку – п'янства.

***Натальля КІРЫЕНКАВА***



## Свой погляд на тыдзень воблясьці

**Паводле афіцыйнага паведамленьня, міліцыя арыштавала падчас атрыманьня хабару выкладчыка аднаго з магілёўскіх ВНУ. Пакуль ідзе сьледзтва, сьцьвярджаць што-небудзь пэўнае мы ня будзем. Аднак 70 даляраў, якія называе міліцыя, ня могуць не засмучаць, бо пагалоска цьвердзіць, што экзамэн у навучальнай установе даўно "каштуе" значна даражэй, не гаворачы пра паступленьне. Хаця хто ведае, аб якім чалавеку канкрэтна ідзе гаворка. Можа і сапраўды зьбяднеў выкладчык (на дзяржаўных харчах гэта цалкам магчыма), а можа злавілі менавіта такога "сьціплага хабарніка", каб паставіць адзнаку ў рапарце аб барацьбе з карупцыяй у сфэры адукацыі.**

Напружваецца настрой у мэдычных установах абласнога цэнтру ў сувязі зь мяркуемым пашырэньнем сфэры платных паслугаў. Пакуль жа лякарні вымушаныя скарачаць рацыёны харчаваньня нават у дзіцячых аддзяленьнях. Так, у дзіцячым мікрабіялягічным аддзяленьні скурвэнэралягічнага дыспансэру адмененыя другі сьняданак, полуднік, кэфір перад сном. Харчаваньне цяпер носіць афіцыйны характар "падтрымальнага".

**У Бабруйску мясцовая габрэйская грамада пачала выдаваць газэту "Гэшэр" (мост). Выданьне зьбіраецца асьвятляць ня толькі жыцьцё мясцовай габрэйскай грамады, але і ўсе іншыя аспэкты стасункаў з нацыянальнымі супольнасьцямі горада. Газэта мае намер быць своеасаблівым інфармацыйным і культурным мастом паміж тамтэйшымі габрэямі і мясцовым грамадзтвам. Пакуль наклад газэты не перавышае 300 асобнікаў.**

Паводле паведамленьня аблстатупраўленьня, мінулагодняя страты эканомікі склалі амаль 50 мільярдаў рублёў. Дэбіторская і крэдыторская запазычанасьць тутэйшых прадпрыемстваў дасягнулі на канец мінулага году ажно трыльёну двухсот мільёнаў рублёў. Асабіста мне рэальна ўявіць такую суму не ўдалося, як ні стараўся.

**Днямі вучоныя спэцыялісты Магілёўскага інстытута прыкладной оптыкі АН Беларусі парадавалі грамадзтва мадэльлю новага сьветлафора. Колеры ў ім ранейшыя: чырвоны, жоўты, зялёны. Затое новая мадэль будзе спажываць электрычнасьці амаль у 5 разоў меней, працаваць зможа 10 гарантаваных гадоў, а каштаваць будзе ўдвая менш за тыя, што рэгулююць скрыжаваньні цяпер. Усё б добра, каб гэткае навуковае дасягненьне ў такім салідным навуковым інстытуце было б дадаткам да глябальных адкрыцьцяў у галіне аптычных тэхналёгіяў, на якія ён разьлічаны па складу супрацоўнікаў, лябараторнай базе, канцэпцыі стварэньня. На жаль, цяперашнім навукоўцам даводзіцца займацца дарожным сьветлафорам, удасканаліць які, на маю думку, здольная больш-менш прыстойная лябараторыя любога тэхнічнага інстытута.**

Пад Шкловам, на так званай Лысай гары хутка пачнецца будаўніцтва а-ля дыснэйлэнду для дарослых. Ідэя, як сьведчаць шклаўчане, належыць самому Канаплёву і падтрыманая самім Лукашэнкам. Тут будзе ўсё, што трэба стомленаму чалавеку, каб вырвацца з будзённасьці: сямейныя гатэльчыкі, рэстаран, канцэртная пляцоўка, бары, лазьня-саўна, заля трэнажораў. Ясна, што сродкі на чарговае набліжэньне мэмарыяльнага райцэнтру да эўрапэйскага ўзроўню знойдуцца, і ўсё будзе зроблена хутка і нават якасна. Іншая новабудоўля рэспубліканскага маштабу (па чутках, якія прасочваюцца з урадавых калідораў) чакае альбо Чавусы, альбо Мсьціслаў. Вось толькі будаваць некаму зь іх давядзецца атамную электрастанцыю.

*Свой погляд на падзеі тыдня прэзэнтаваў* ***Сымон Глазштэйн.***



ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# Можа й на іх хопіць клопату?

***На мінулым тыдні, калі я выходзіў з крамы "Прамтавары", што на вуліцы Астроўскага, да мяне зьвярнулася незнаёмая дзяўчынка. Яна штосьці мармытала, але ейная жэстыкуляцыя была цалкам зразумелая: падайце!***

Апранутая яна была ў брудную куртку, падвязаную вяроўкай, вязаную шапачку, гумовыя боты. Я спыніўся. Тады дзяўчынка адразу пачала гаварыць разборліва і даволі гучна. Яна прасіла грошы на ежу. Я даў ёй колькі грошай і сабраўся рушыць далей. Але яна ледзь не ўхапілася за мяне рукамі, працягваючы прасіць грошай "для сятрычкі". Я спытаўся, дзе іхная маці. "Маці, – зь нейкай звыклай палёгкай адказала дзяўчынка, – п'е".

Даўшы ёй яшчэ колькі грошай, я здолеў даведацца, што завуць яе Віка (прозьвішча пакідаю ў рэдакцыі), што ёй 10 год і што вучыцца яна ў гарадзкой сярэдняй школе №5. Я, дарэчы, дазваніўся ў школу й даведаўся, што дзяўчынка з такім прозьвішчам там сапраўды ёсьць.

... Калі б была жывая Натальля Рослава, я б ведаў, куды мне зьвярнуцца, каб дапамагчы Віке. Але зараз пішу ў газэту ў спадзяваньні на тое, што ўлада (пасьля таго, як зьбольшага адрамантавала фасады па Першамайскай) знойдзе сродкі й на патрэбы гэтай дзяўчынкі зь яе сястрычкай. Тым больш, што падобных дзяцей можна сустрэць у горадзе даволі часта.

***Віктар АБРАМОВІЧ***



Фота IREX

МІЛІЦЫЯ І ГРАМАДЗТВА

# Далёка заводзіць асобны шлях

***Яшчэ ў сьнежні мінулага году магілёўскае аддзяленьне Беларускага Хельсінскага Камітэту зьвярнулася да начальніка абласной міліцыі, палкоўніка (ці можа ўжо гэнэрала?) Івана Сяргея з афіцыйнай прапановай сустрэцца з прадстаўнікамі мясцовых праваабарончых грамадзкіх арганізацыяў за "кольным сталом".***

У лісьце за подпісам старшыні аддзяленьня БХК Уладзімера Краўчанкі было прыведзенае, як цяпер модна казаць, факталягічнае абгрунтаваньне неабходнасьці такой сустрэчы. Аднак міліцэйскі адказ, ветлівы і таксама факталягічны, быў няўмольным: **сустрэча немэтазгодная.**

Бо, як вынікае з адказу І.Сяргея, грамадзтва праз газэты і тэлебачаньне (зразумела, выключна дзяржаўныя – "ТМ") добра інфармаванае пра дасягненьні і недахопы міліцыі, а таксама розных камісіяў сумесна з грамадзкасьцю і працоўнымі калектывамі ажно сотні, і выступленьняў у калектываў адказных міліцэйскіх чыноў набіраецца нават больш за 7 тысячаў... Ды й увогуле (далей цытата зь ліста І.Сяргея): "В связи с тем, что в настоящее время органы и подразделения внутренних дел области работают в усиленном режиме, необходимо решать конкретные задачи по обеспечению личной и имущественной безопасности граждан в период празднования рождественских и новогодних праздников принять участие в проведении "Круглого стола", к сожалению, не представляется возможным".

Праваабаронцы зразумелі гэтую спасылку на занятасьць як міліцэйскае пераканаnьне, што гаварыць сапраўды няма аб чым. Яны ж, хельсінцы, у сваю чаргу ўпэўненыя, што гаварыць – да таго ж тэрмінова – ёсьць аб чым. Паўторна яны абгрунтоўваюць гэта ў лісьце, якое днямі накіравалі міністру ўнутраных справаў. У дакумэнце нагадваюцца апошнія гучныя скандалы з абласнога міліцэйскага жыцьця: суправаджэньне міліцыянтамі ў мэтах бясьпекі (!) незаконнага вывазу гарэлкі з Клімавіцкага ЛГЗ, нясьціплыя паводзіны на службе і па-за ёй начальніка Слаўгарадзкай міліцыі, зьбіцьцё затрыманага падлетка непасрэдна ў міліцэйскім офісе, супрацьзаконныя дзеяньні начальніка крымінальнага вышуку Кастрычніцкага РАЎС і ягоных падначаленых падчас допытаў сьведкаў...

Такім чынам, на думку Уладзімера Краўчанкі (цытата зь ягонага ліста): "...отказ начальника УВД от участия в работе "Круглого стола" затруднит решение конкретных задач по обеспечению личной и имущественной безопасности граждан".

Здаецца нам, што пагадзіцца трэба з гэтай высновай, а не зь міліцэйскім абгрунтаваньнем. Калі, як гэта сьцьвярджаецца, задача ў грамадзтва і дзяржавы – прадстаўленых у нашым выпадку праваабаронцамі і міліцыяй – адна, дык ці многага дасягнеш на гэтым шляху паасобку? Дзеля выкананьня задачы па абароне асабістай і маёмаснай бясьпекі грамадзянаў трэба было б, як прапануюць праваабаронцы, працаваць разам, абапіраючыся выключна на Канстытуцыю й міжнародныя прававыя пакты.

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па прававых пытаньнях***

**P.S.** Па ўсяму відаць, ёсьць яшчэ час для ўдакладненьня праграмы "кольнага стала". Магілёўскае аддзяленьне БХК просіць грамадзянаў зьвяртацца са сваімі прапановамі, а таксама па ўсіх фактах парушэньня правоў чалавека ў офіс, які месьціцца па адрасу: г.Магілёў, завулак Крупскай, дом 5 (уваход з двара на 2-гі паверх). Тамсама месьціцца, дарэчы, і Магілёўскі праваабарончы цэнтар. У абедзьве арганізацыі можна пазваніць пакуль толькі на "саставы" нумар: 8-0296-31-66-10.

## ШТО НА ТЫДНІ... У БЯЛЫНІЧАХ І ДРЫБІНЕ



***Адмысловы студэнскі выпуск газэты мясцовых краязнаўцаў "Бялыніцкая даўніна" цалкам прысьвечаны Вітольду Бялыніцкаму-Бірулі.***

29-га лютага 2002г. з дня ягонага нараджэньня споўніцца 130 гадоў. Як вядома, народны мастак Беларусі й Расеі, акадэмік жывапісу нарадзіўся ў Бялынічах.

У нумары газэты – біяграфічныя зьвесткі пра мастака, выказваньні пра ягоную творчасьць вядомых жывапісцаў Беларусі, Украіны, Літвы, Францыі, Польшчы, Расеі. Таксама друкуюцца расповяды аб міжнародных і раённых плэнэрах па жывапісу памяці спадара Вітольда.

Упершыню сярод беларускіх СМІ "Бялыніцкая даўніна" надрукавала ўрыўкі з успамінаў жонкі мастака – Алены Бірулі пад назваю "Вітольд Каятанавіч і Ўдомельшчына". У наступных нумарах выданьня мяркуецца зьмясьціць гэтыя ўспаміны цалкам.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***



***Нядаўна райвыканкам вырашыў зьяднаць у адзін калектыў саўгасы "Запаветы Ільіча" і "Слава".***

У першым зь іх рабочыя, якіх больш за сто чалавек, згубілі ўжо надзею на атрыманьне заробку. Таксама ў гаспадарцы, за выключэньнем фэрмаў, з прычыны запазычанасьці было адключанае сьвятло. Як лічаць у выканкаме, зьяднаньне дапаможа, бо "Слава" – гэта ўвогуле адзіная гаспадарка ў раёне, якая мае хоць нейкія пэрспэктывы.

***Райвыканкам у асобе намесьніцы старшыні В.Страхалет забараніў без свайго дазволу браць на працу людзей ва ўстановы, падначаленыя аддзелу адукацыі.***

Да таго ж спадарыня Страхалет падчас сходу прафсаюзнага актыву работнікаў адукацыі – насуперак патрабаваньням працоўнага кодэксу – заявіла, што заробак цяпер будзе выплочвацца толькі раз на месяц.

***Сяргей МУРЗІН***





## ДРУГІ БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ НЕДЗЯРЖАЎНАЙ ПРЭСЫ

# Трэба калі й адпачыць...

***Напрыканцы мінулага тыдня ў Менску прайшоў Другі Беларускі фэстываль недзяржаўнай прэсы. Разам з тым, што ўся ягоная атмасфэра мела найперш сьвяточнае аздабленьне, фэст адначасна стаўся і своеасаблівым аглядам стану недзяржаўнай прэсы ў цяперашні пэрыяд, а менавіта – падчас пэрманэнтных і чакаемых сёлета новых захадаў улады да зьнішчэньня ў краіне друкаванага вольнага слова.***

Трэба адразу падкрэсьліць: яно, гэтае вольнае слова, яшчэ цепліцца і прабіваецца да людзей. Хаця ў часе прэзыдэнцкіх выбараў і адразу пасьля іх улада сваімі кантрольнымі інстанцыямі, карнымі органамі й судамі нанесла цэху недзяржаўных СМІ значныя раны. Не выходзіць (па рашэньні суда) і ня мае пакуль варыянтаў аднаўленьня гарадзенская "Пагоня". Пазбаўленая маёмасьці і перасьледуецца ў судовым парадку аршанская "Куцейна". Працягваецца запалохваньне крычаўскага "Вольнага гораду". У выніку разладаў, навязаных рэдакцыям звонку, у рэдакцыях баранавіцкага "Шага" і гарадзенскага "Голасу над Нёманам" зьмяніліся рэдактары, што (па меншай меры, пакуль) аслабіла ранейшыя зьместоўныя прыярытэты выданьняў. Свае порцыі непрыемнасьцяў мелі і маюць "Народная воля", "Наша свабода", "Барысаўскія навіны", "Новая газэта Смаргоні" (можна паставіць у гэты шэраг і наш "Тыднёвік").

Таму не было дзіўным тое, што сярод удзельнікаў сьвята найбольш шпарка разыходзіліся брашуры Цэнтру прававой абароны СМІ пры Беларускай асацыяцыі журналістаў, у якіх аналізаваліся падрыхтаваныя "нашымі заканадаўцамі" недапушчальныя антыдэмакратычныя зьмены ў Закон аб друку, якія могуць быць уведзеныя ўвесну.

Аднак вялікі журналісцкі сход, хаду якога каардынаваў віцэ-прэзыдэнт БАЖ Аляксандар Тамковіч, быў усё ж сьвяточным. Каляровыя паветраныя балёны, "фірмовыя" майкі, налепкі і каляндарыкі, шаржы і пэрфомансы, сьпеўныя нумары Лявона Вольскага з музычным гуртом, уручэньні сьціплых падарункаў ды іншых прыемных знакаў увагі... Уручалі іх, дарэчы, асобным журналістам і выданьням прадстаўнікі асноўных палітычных арганізацыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў краіны ў асобах іхных лідэраў – А.Лябедзькі, В.Вячоркі, В.Лявонава, Т.Процькі, М.Чыгіра, А.Манаева, А.Патупы, П.Севярынца, Ц.Дранчука і, зразумела, прэзыдэнта БАЖ Жаны Літвіной. Не абышлося й безь сяброўскага фуршэту.

Справядліва будзе таксама адзначыць, што арганізацыя фэсту была лепшай, чым летась. Зусім шчыра ўдзельнікі дзякавалі за тое старшыні аргкамітэту фэстывалю, віцэ-прэзыдэнту БАЖ Эдуарду Мельнікаву й ягонай вынаходлівай памагатай Алене Паповай з Фонду разьвіцьця і падтрымкі недзяржаўнай прэсы.

... Напрыканцы імпрэзы рэдактары й іншыя ўдзельнікі фэстывалю разьвітваліся адзін з адным у добрым настроі, абяцаючы больш выразна трымацца разам, працягваць служыць грамадзтву прафэсійна і сумленна. Ці можна было спадзявацца лепшага выніку праведзенага сьвята...

***Генадзь СУДНІК***

***Фота радыё "Рацыя"***











## КУРАПАТЫ: АПОШНІЯ ЗЬВЕСТКІ

# Ці будзе ён, адмысловы дасьледчы цэнтар

***У Беларусі ніколі адмыслова няладзіліся археалягічныя раскопкі з мэтаю дасьледаваньня месцаў масавых расстрэлаў людзей.***

Цягам рэканструкцыі Менскай кальцавой дарогі ля ўрочышча Курапаты археолягі Інстытута гісторыі назіраюць за ходам земляных работаў. Галоўным чынам гэтым займаецца старэйшы навуковы супрацоўнік Інстытуту, археоляг Алег Іоў. Ён браў удзел у раскопках у Курапатах яшчэ разам зь Зянонам Пазьняком. Тады археалягічныя раскопкі ініцыявала пракуратура пасьля надрукаваньня ў прэсе артыкулу З.Пазьняка і Я.Шмыгалёва "Курапаты – дарога сьмерці".

Паводле Алега Іова, адмысловыя археалягічныя раскопкі дзеля пошуку масавых пахаваньняў і вызначэньня імёнаў ахвяраў палітычных рэпрэсіяў, у Беларусі дагэтуль не праводзіліся: "Польскія навукоўцы ў Катыні ды іншых месцах рабілі адмысловыя археалягічныя дасьледаваньні месцаў рэпрэсіяў. Мы ж у Беларусі капалі ў сувязі са сьледзтвам, але адмысловых раскопак не вялося, і не вядзецца зараз".

"Украінцы вялі падобныя раскопкі, – працягвае Іоў. – Ва Ўкраіне знайшлі месца, дзе быў пахаваны брат Янкі Брыля. Там такія дасьледаваньні вяліся мэтанакіравана. Калі тут быў яшчэ Зянон Станіслававіч, хацелі раскапаць, прашурфаваць Лошыцу. Але літаральна за дзень да таго, як мы туды зьбіраліся, гэтае месца засыпалі гравіем і пабудавалі там гараж! Такія месцы можна знайсьці практычна ў кожнай беларускай турме. Дзе былі турмы, там расстрэльвалі: напрыклад, у Вілейцы, Горадні. Асабліва ў 1941г., калі пачалася вайна, усіх "палітычных", якія там былі, забілі...".

Старэйшая навуковая супрацоўніца Інстытуту гісторыі Валянціна Вяргей распавяла, што раней у Інстытуце працавала навуковая група, якая дасьледавала гісторыю палітычных рэпрэсіяў. Але яе скасавалі пасьля 1996г.

Валянціна Вяргей мяркуе, што трэба наноў ствараць адмысловы цэнтар дасьледаваньняў гісторыі палітычных рэпрэсіяў у Беларусі, і менавіта цяперашнія падзеі ў Курапатах могуць паспрыяць гэтаму.

***Ганна СОУСЬ***

## СУДОВЫЯ НАТАТКІ

# Звычайны дзень у звычайнай вёсцы

***"ТМ", як правіла, абмінае сваёй увагай крымінальную кроніку, бо надае больш увагі правам чалавека і, адпаведна, фактам перасьледу людзей па палітычных матывах. Аднак справа, што разглядалася нядаўна ў Бялыніцкім раённым судзе, зацікавіла нашага карэспандэнта менавіта тым, што была звыклай і будзённай. Аж да жаху...***

Адбылося тое шараговым жнівеньскім днём у вёсцы Каліпаўка. А пачалося з райцэнтру, дзе двое сябрукоў – Ігар і Сяргей (першы, дарэчы, яшчэ зусім нядаўна быў міліцэйскім участковым) выпілі ад няма чаго рабіць гарэлкі й падаліся ў Каліпаўку для працягу гуляньня. Напрасіўся зь імі, хоць і цьвярозы на той момант, але заўсёды кампанейскі, непаўнагадовы Андрэй. Праз колькі часу тройка ўжо па-гаспадарску ішла па вёсцы. Насустрач ёй на ровары ехаў нейкі мужчына. Да яго й пачалі чапляцца. Аднак "паўнавартаснага" канфлікту не адбылося, бо на дапамогу аднавяскоўцу прыйшлі суседзі, а хутка прыбеглі да месца сваркі і браты чалавека на ровары. Тройка саступіла (як станецца пазьней вядома, часова).

Тым часам сябры, завярнуўшы за нейкую хату, выпілі яшчэ, бо, як гаворыцца, было з сабою. Што ж далей? Вяртацца ў райцэнтар, не пагуляўшы?.. Вярнуліся да месца нядаўняй сваркі, дзе засьпелі аднаго з тых, хто дапамог чалавеку на ровары пазьбегнуць іхнага нападу. Пачалі да гэтага чалавека, якога звалі Аляксандар, чапляцца. Ён, між іншым, даў сябрам зразумець, што нядаўна прыйшоў з "зоны", і таму іх не баіцца. Аднак каб жа ведаў ён, што ў складзе тройкі быў ня толькі былы міліцыянт, але і былы крымінальнік таксама! Пачалі яны высьвятленьне: хто кім быў "там" згодна тамтэйшага ранжыру. Паразуменьня ў выніку не дасягнулі. Распачалася доўгачаканая і доўгашуканая бойка...

Кропку ў ёй паставіў непаўнагадовы Андрэй, які ўжо амаль і без таго непрытомнага Аляксандра шыбануў некалькі раз ладнай дошкаю, якую адмыслова дзеля гэтага вырваў з бліжэйшага паркану.

Памалу ўсё сьціхла. Для Аляксандра, як сталася хутка вядома, усё сьціхла назаўсёды. Ён памёр у шпіталі ад нутранога крывасьцёку. Напярэдадні новага году суд заслухаў справу і, як гаворыцца ў падобных выпадках, даў кожнаму з удзельнікаў дзікай бойкі па заслугах і закону.

... А вёска з таго жнівеньскага дня вярнулася да свайго звычайнага жыцьця. Ізноў нехта ў ладным падпітку шыбуе па цэнтральнай вуліцы. І нехта едзе насустрач на ровары...

***Алесь ДАЙНЕКА***

## ЧОРНЫ КАЛЯНДАР

# Настолькі горш, што й займацца ня варта...

***1004 дні таму зьнік Юры Захаранка. Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага шукаюць няма 860 дзён. 578 дзён прайшло ад выкраданьня Зьмітра Завадзкага.***

Жонкі зьніклых і пацярпелых ад беларускага рэжыму палітыкаў накіравалі дэпутатам Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы ліст з просьбай стварыць камісію дзеля расьсьледаваньня справаў зьніклых. Гэтай камісіі, паводле аўтарак ліста, належыць расьсьледаваць і сьмерць былога намесьніка старшыні Вярхоўнага Савету Генадзя Карпенкі.

Вядома, што ПАРЭ вырашыла стварыць падобную камісію паводле справы зьніклага ўкраінскага журналіста Гангадзэ, а беларускімі праблемамі пакуль не займалася. Заяўніцы спадзяюцца, што здолеюць зьвярнуць увагу гэтай эўрапейскай структуры да значна больш горшай, чымсьці ў суседзяў, сытуацыі з правамі чалавека ў нашай краіне.

***Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ***



## Дзе яшчэ жыве надзея

*У абласным драматычным тэатры днямі адбылася прэм'ера спэктаклю "КІМ" паводле п'есы Аляксея Дударава, якую драматург асабіста падараваў тэатру год таму падчас урачысьтасьці з нагоды вяртаньня творчага калектыву і гледачоў у адрэстаўраваны родны будынак.*

Аднак магілёўцы па шэрагу аб'ектыўных і нават трагічных прычынаў (сышоў з пасады галоўны рэжысэр; памёр галоўны мастак; загінуў асноўны малады актор; зьехаў у іншы горад, паставіўшы толькі адзін спэктакаль, рэжысэр, на якога спадзяваліся) не маглі самі ажыцьцявіць пастаноўку. Дапамаглі купалаўцы, чый рэжысэр Аляксандар Гарцуеў паставіў "КІМа" на нашай сцэне, выбраўшы таксама для спэктаклю музычнае афармленьне. Зразумела, што пры гэтым увесь тэатар патрыятычна працаваў на прэм'еру як мог, асабліва – акторы. Разам усе выдатна выканалі творчую задачу.

Крымінальная мэлядрама, што разгортваецца на вачах гледачоў, захопленых дзеяньнем і выдатным выкананьнем акторамі сваіх роляў, пазнавальна сёньняшняя. Менавіта гэтая абвостраная злабадзённасьць дзеяньня, учынкаў, дыялёгаў і рэплікаў робіць спэктакаль асабліва прыцягальным для акторах, якія, відаць, даўно ўжо сумавалі па актуальнаму рэпэртуару. Прыцягвае гэта й гледачоў, якія стаміліся ад бясконцых бразыльскіх тэлесэрыялаў. Вось ён, гэты ж сэрыял – толькі свой, родненькі. Можа толькі, у адрозьненьне ад рэальнага жыцьця, зь нечаканым фіналам. Але ж сам Аляксей Дудараў, прысутны на прэм'еры і задаволены ўбачаным, патлумачыў гэта наступным чынам: "Гэта мая мара, маё пажаданьне ўсім добрым людзям, каб іх праблемы вырашаліся й каб не пакідала іх надзея. Галоўнае, канешне, каб Бог нас не пакідаў...". Гэтую надзею, прарыў да лепшага ў сваіх героях (каб дастукацца, зразумела, да нас) граюць Уладзімер Пятровіч, Алеся Шапавалава і 12-гадовы Дзяніс Кінжалаў, а таксама іншае маладое тэатральнае папаўненьне новага сэзону.

Сэзон гэты, дарэчы, удала пачаўся: Алена Папова, Аляксей Дудараў. Неўзабаве ўпрыгожаць афішу яшчэ два імёны нацыянальнага тэатральнага гонару – Уладзімер Кавалёў і Алег Жугжда. Да таго ж Дудараў, удзячны і расчулены творчым посьпехам магілёўцаў, пакінуў нашаму тэатру сваю новую п'есу. Сапраўды, у старых сьценах усё больш настойліва заяўляе пра сябе новае жыцьцё.

У кожнага чытача ёсьць магчымасьць пераканацца ў гэтым асабіста. Ідзіце, шаноўныя, у тэатар. Сёньня толькі ён дае хоць нейкую надзею...

***Алена БАРЫСАВА***
***Фота Юрыя Аўласцова***



ЦЁПЛАЕ СЛОВА АД ВУЧНЯЎ

## На музыку і дабрыню адгукаецца душа

*Гэтымі днямі музычнае грамадзтва Магілёва адзначыла жыцьцёвы юбілей Людмілы Мікалаеўны Пятровай-Кумінскай.*

Зразумела, што гэта было нагодай і для адзначэньня творчых дасягненьняў выдатнай выкладчыцы музыкі, якая плённа працуе ў Магілёўскай музычнай вучэльні з 1969-га году.

Людміла Мікалаеўна прайшла ўсе ступені пэдагагічнай працы. Яна была шмат год канцэртмайстрам для вельмі многіх мясцовых выканаўцаў. Усе ранейшыя выпускнікі музычных клясаў В.Стасьцінай, А.Пузанава, Т.Лявонцьевай ніколі не забудуць тонкай і шчырай дапамогі ў станаўленьні іхняга выканаўчага майстэрства і, увогуле, у глыбокім разуменьні кожнага музычнага твору з боку Людмілы Мікалаеўны. Многія справядліва лічаць яе другой маці, бо выкладчыца і канцэртмайстар заўжды знаходзіла для кожнага сваё важкае слова, свой жэст, свой, калі тое трэба, папрок. Ня толькі ў справах музычных, ня толькі тады, калі гэта тычылася нотаў і ўрокаў, але заўсёды, калі тое было й ёсьць патрэбна – у любых жыцьцёвых абставінах.

Цяпер Людміла Мікалаеўна загадвае фартапіянным аддзяленьнем, але ніколькі не аддалілася ад вучняў і па-ранейшаму дапамагае ім ва ўсім. Хаця музыка для яе, няма сумневу, на першым месцы. Такія ж адносіны да будучай прафэсіі перадае яна студэнтам. Нездарма большасьць яе выпускнікоў працягвае займацца музыкай, дасягае значных вышыняў у прафэсійнай творчасьці. Дыпляманты самых розных беларускіх і міжнародных пачэсных конкурсаў сардэчна абавязаныя Людміле Пятровай-Кумінскай.

Калі ў гэтыя юбілейныя дні мы задумваліся над тым, што спрыяе посьпеху і выдатнай творчасьці нашай любімай Людмілы Мікалаеўны, дык зразумелі, што справа ня толькі ў яе пэдагагічным таленце і ў высокай адданасьці сваёй справе. На нашае шчасьце, яна да таго ж умее закрануць кожную вучнёўскую душу. Яна бачыць перад сабой ня толькі ноты і фартапіяна, але найперш вучня – з усімі ягонымі здольнасьцямі, памылкамі, надзеямі. Бачыць і адчувае з адзінай мэтай – каб падараваць яму любоў да музыкі і перадаць упэўненасьць у працы. А чульлівыя душы музыкаў, нават пачынаючых, больш за ўсё на гэта і адгукаюцца...

Дзякуй Вам, дарагая наша Людміла Мікалаеўна!

***Алена ПАДДУБСКАЯ***

БЛІЗКАЯ ГІСТОРЫЯ

## Калісьці яно было, агульнае ласкавае неба...

*Здаўна жылі габрэі на крычаўскай зямлі. Калі зьявіліся яны тут, невядома, але пра тое, што ніхто не лічыў іх людзямі другога гатунку, ніхто не цікаваў, можна казаць дакладна.*

З дакумэнтаў XVII-XVIII ст.ст. вядома, што крычаўскія габрэі былі ювелірамі, шаўцамі і пушкарамі, трымалі шынкі і крамы. Крыніцы першай паловы XVIII ст. сведчаць пра тое, што пэўны час крычаўскае стараства ў князя Гераніма Радзівіла арэндавалі браты Гдаль і Шмуль Іцкавічы.

Аднак часы зьмяняліся, і разам з новай упадай з усходу прыйшло новае паняцьце – антысэмітызм. Пасьля гэтага жыцьцё мясцовых габрэяў набыло смак болю, крыўды і нават крыві. Нягледзячы на гэта, яны не жадалі нікуды зьязджаць. А можа, і не было куды?

Габрэйская дыяспара яшчэ ў пачатку XX ст. складала прыкладна палову ўсяго гарадзкога насельніцтва і жыла ў гістарычнай частцы горада, там, дзе зараз месьцяцца раённая бальніца і дзіцячы парк. Габрэі займалі цэлыя вуліцы, якія цягнуліся пэрпэндыкулярна напрамку Сожа. Але жылі яны таксама і на вёсцы. Вядома, напрыклад, што цэлы калгас з цэнтрам у вёсцы Маляцічы складаўся з габрэяў. Яшчэ зараз у Маляцічах можна пабачыць закінутыя іўдзейскія могілкі.

Нават пасьля рэвалюцыі яны мелі ў Крычаве бібліятэку, сынагогу і ўласную школу, дзе выкладаньне вялося на роднай мове. У паўсядзённым жыцьці яны размаўлялі на ідзішы, выконвалі ўсе абрады, адзначалі сьвяты. Ніколі, ні пры якіх абставінах яны не выракаліся сваёй мовы і сваіх каранёў. У габрэйскай сям'і было зазвычай шмат дзяцей, і габрэі вельмі рэдка бралі шлюб зь людзямі іншых нацыянальнасьцяў.

Бытаваў сярод іх цікавы абрад пахаваньня. Па словах відавочцаў, якія назіралі яго недзе на пачатку 50-х гадоў мінулага стагодзьдзя, ён выглядаў наступным чынам. Нябожчыка, завернутага ў саван, несьлі на могілкі ўвечары ці ўначы. Гэта рабілася дзеля таго, каб памерлага не пабачыў ніводны чалавек іншай веры – тады, маўляў, на іншым сьвеце яму будзе добра і лёгка. Калі падносілі да ямы, то цела раптоўна кідалі, а самі падалі навокал і заплюшчвалі вочы. Потым асьцярожна, не азіраючыся, ішлі дадому.

... Пасьля вайны рэшткі былой вялікай габрэйскай грамады вярнуліся ў Крычаў. Намагаліся пачаць жыць па-старому. Але не было ўжо ў горадзе равіна, адабралі ад іх сынагогу, зачынілі школу і бібліятэку. Дзеці пачалі забываць ідзіш і саромецца сваёй нацыянальнасьці. Хаваць нябожчыкаў пачалі ў дамавінах, як хрысьціянаў (праўда, на асобных могілках). І толькі купка старых габрэяў трымалася старажытных абрадаў і мовы. Групаваліся яны вакол дзеда Майсея, які выконваў абавязкі равіна. Паступова старыя памерлі, а маладыя зьехалі ў Ізраіль, Аўстралію ды ЗША.

Недзе за акіянам крычаўскія габрэі ўзгадваюць свой стары добры Крычаў, сьняць лясы і палі, непакорлівы Сож і сваё басаногае дзяцінства, крывабокія хаткі і ласкавае неба. Такое сіняе і любае як беларусу, так і габрэю...

***Андрэй КУЗЬМІН***

## Быць "Партызану" у кожнай беларускай хаце

**У Менску выйшаў першы нумар часопіса "Partisan".**

Як тлумачаць аўтары выданьня, новы часопіс прымусіць чытачоў па-іншаму зірнуць на сучасны беларускі культурны кантэкст. Ягоная мэта – адкрыць для беларускага чытача актуальнае мастацтва (Contemporary Art), мастацтва высокіх тэхналёгіяў. Найбольшая ўвага на старонках "Партызану" будзе надавацца мэдыя- й відэамастацтву, пэрфомансу, візуальнай паэзіі, мастацтву інсталяцыі, а таксама рызыкоўным пошукам у дызайне і рэкламе. Стваральнікі часопіса імкнуцца сфармуляваць адметнасьці беларускай культуры, прапанаваць ёй свае дактрыны разьвіцьця. Часопіс будзе выходзіць два разы на год. Выдае яго Артур Клінаў, заснавальнік Асацыяцыі сучаснага мастацтва.

***Паводле BARC-List***



Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта.
Заснаваная Магілёўскім ГА
«КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*



АДРАС РЭДАКЦЫІ:

212030, г. Магілёў,
вул. Першамайская,
6-22.



Тэл./факс: 31-04-15,
22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Сьпірыдона Собаля, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 4. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 24.01.2002 г. а 17.10